Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумар



# ЗМАГАНЬ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 150.000 мк., сярод тэксту 120.000 м. і на 4 стр. 100.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 2 (23). Вільня, Пятніца, 4-га студзеня 1924 г. Год II.



## Паход проці канстытуцыі.

„Всуе законы писати, ежели их не исполняти",—напісаў гэтак некалі Пётр Вялікі.

Запраўды, на што пісаць такія законы, якія астаюцца адно толькі на паперы і не праводзяцца ў жыцьцё?

Словы вялікага рэфарматара старое Расеі вельмі добра можна прылажыць да дзяржаўнага жыцьця Польскае Рэспублікі. Прынамся, „на крэсах" Польшчы, прыкладам у Заходняй Беларусі, дзе, як сьведчыць нават „Gaz. Warsz." (гл. № 352 ст. п. Цісьвіцкага), палякі прадстаўляюць *меншасьць*, мы зусім ня бачылі правядзеньня ў жыцьцё польскае канстытуцыі. Ужо нават паўтараць абрыдла ўсе тыя палічаныя факты, якія сьведчаць, што для „інародцаў" канстытуцыя ня існуе. А польскі Сойм і польскі прэзыдэнт п. Войцехоўскі на дзеле сьцьвердзілі, што параграф канстытуцыі аб роўных правох усіх грамадзян Польскага гаспадарства — гэта пусты гук: адзіным гаспадаром у дзяржаве зьяўляецца выключна польскі народ, і толькі палякі могуць вырашаць справы дзяржаўнага характару і тварыць урады.

Пачатак гэткаму адкіданьню канстытуцыі ў жыцьці гаспадарства быў зроблены за „панаваньня" благое памяці п. Язэпа Пілсудскага, які ў адносінах да канстытуцыі дзяржаўся пагляду аднаго бацькі, што казаў сыну: „я цябе спарадзіў, я-ж і жыцьця арашу!" П. Пілсудскі „адмяніў" канстытуцыю ў адносінах да трэцяе часьціны насяленьня Польшчы, ды гэтым у сьвядомасьць польскае большасьці ўвёў перакананьне, што канстытуцыя — гэта „толькі так", „для парадку" напісана, але ніякае сілы ня мае. Не дарма адзін школьны інспэктар у Заходняй Беларусі сказаў сялянам, якія дамагаліся беларускае школы на аснове канстытуцыі: „канстытуцыя зацьверджана, ды яшчэ ня ўведзена"!

Вынікам гэткае непашаны да канстытуцыі і зьяўляецца той паход рэакцыйнае польскае прэсы проці акту 17 сакавіка, які распачалі зусім адкрыта польскія манархістычна настроеныя абшарнікі і падтрымліваюць болей ці меней яўна эндэцкія газэты, усяляк ганьбуючы самы прынцып усенароднага ўчасьця ў выбарах Сойму. „Kurjer Warszawski" і за ім віленскае „Słowo" проста дамагаюцца, каб Сойм прызнаў „недасканаласьць канстытуцыі 17 марца" і „зрокся яе ў часьці". А „Gaz. Warsz." заяўляе, што ні гэты, ні падобны яму Сойм, выбраны *ўсім* насяленьнем, ня можа даць ратунку зруйнаванаму польскаму скарбу.

Бязумоўна, абвешчаны п. прэзыдэнтам Рэспублікі прынцып, што выключным гаспадаром Польшчы зьяўляецца адзін толькі польскі народ, а, значыцца, што ўсе другія народы—гэта толькі цярпімыя „кватаранты" (хоць на сваей тэрыторыі зьяўляюцца *большасьцяй*!),—гэты прынцып не ўмяшчаецца ў рамках польскае канстытуцыі, якая гаворыць аб поўнай роўнапраўнасьці ўсіх грамадзян бяз розьніцы веры і нацыянальнасьці (— адно аграніченьне ўведзена толькі для кандыдатаў на прэзыдэнта Рэспублікі). Вось-жа, з пункту гледжаньня права ў агульна-эўрапэйскім разуменьні, лепей зьмяніць канстытуцыю, чым усьцяж яе ламаць. І з гэтага пагляду маюць рацыю польскія правыя групы, якія пачалі паход проці канстытуцыі: лепш няхай яе зусім ня будзе, чым яна мае самым фактам свайго існаваньня баламуціць заграніцу і правацыраваць „грамадзян другога сорту" да ўчынкаў, дапушчаных законам, але прызнаваных „праступнымі" выпаўніцелямі гэтага закону.

Запраўды, „всуе законы писати, ежели их не исполняти". Конституцыю 17 марца забіў уласнаручна п. Пілсудскі, і п. Войцехоўскаму астаецца або яе *ўваскрасіць*, прымусіўшы да належнага шанаваньня і выпаўняньня яе перш за ўсё залежную ад яго ўладу, або... ўрачыста *пахараніць* яе, чаго дамагаецца „правіца" і з чым бароцца „лявіца".

Трэба адзначыць, што, як паказвае само жыцьцё, пануючыя ў Польшчы клясы *не дарасьлі да сваей канстытуцыі*, прынятай Соймам пад націскам вонкавых выпадкаў, перад усім—пад націскам выпадкаў на Усходзе. І цяпер, калі Польшча верыць у сваю моц, спадзяючыся ў кожнай прыгодзе на сваю саюзьніцу Францыю,— гэтыя самыя клясы стараюцца пазбавіць свае працоўныя масы тых правоў, якія ім дае канстытуцыя. Вось, чаму „Gaz. Warsz." называе Сойм „бруднай і цёмнай зьбіранінай", а віленскае „Słowo" дае народным выбранцам імя „дармаедаў",—дый абедзьве газэты лятуцяць аб запраўдным дармаедзе—„польскім цару" з „польскае дынастыі". І для нас цяпер зусім ясна, што далейшая барацьба паміж польскай „правіцай" і „лявіцай" павінна будзе перайсьці зусім выразна на грунт барацьбы аб самы *прынцып канстытуцыйнасьці і дэмакратызму* ў дзяржаўным будаўніцтве Польшчы.

А ў гэтай адкрытай ужо барацьбе за прынцыпы або запраўды народзіцца польскі *манархізм*, або зьдзейсьніцца ідэал П. П. С.: „*работніцка-сялянскі ўрад*", за які партыя дагэтуль вяла змаганьне толькі... на паперы!

## Наш культурны рост.

Аб моцы народу гаворыць ня гэтулькі яго вонкавае жыцьцё, сколькі сіла ягонага духа, сколькі захаваны ў яго душы запас творчае энэргіі, выяўленьнем якое і зьяўляюцца гэтыя вонкавыя формы грамадзкага жыцьця. Бо гэтыя формы народ творыць *у барацьбе*, і яны ня зразу стаюцца ідэальнымі, ня зразу аказваюцца зусім прытарнаванымі да ўнутранага жыцьця народнае душы.

З боем тварылася наша народная школа ў Заходняй Беларусі. І хаця ў гэтай барацьбе перавага на мамэнт аказалася на старане варожае нам сілы, але факт існаваньня тут за апошнія гады каля 400 беларускіх народных школ і двух вучыцельскіх сэмінарыяў не прайшоў бяз сьледу нават пасьля прымусовага закрыцьця гэтых школ: тыя чатыры сотні сьвядомых беларускіх культурных працаўнікоў, прымушаных цяпер да бязьдзейнасьці,—гэта-ж запас нашае нацыянальнае творчае сілы, які знойдзе для сябе выхад пры першай перамене вонкавых абставінаў. З боем вядуць сваю працу нашыя беларускія гімназіі, але і працаўнікі ў іх і моладзь, бачучы гэту барацьбу нашага народу за існаваньне і права на культуру, узгадоўваюць у сабе веру толькі ў свае ўласныя сілы, прывучаюцца спадзявацца толькі на сябе і гартуюць свае душы. А з тэй моладзі, што кожны год канчае беларускія сярэднія школы, складаюцца новыя сотні нацыянальна сьвядомых інтэлігентаў, расьце грамада дзеячоў, што далей будуць вясьці творчую працу над будаваньнем нацыянальнае культуры, над будаваньнем духовае Беларусі. Лічба студэнтаў-беларусаў з Зах. Беларусі ў Пражскім унівэрсытэце пераступіла ў 1923 годзе *за сотню*.

Тое-ж бачым у Усходняй Беларусі. Там лічба беларускіх працаўнікоў на ніве прасьветы ў роднай мове і ў родным духу, лічыцца ўжо тысячамі. Там тыя культурныя цэннасьці, якія ў пастаці кніжак, журналаў і г. д. з такім трудом творым мы на Захадзе,—там яны твораца ў дзяржаўных установах, як Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, як Інстытут Беларускае Культуры, як сэкцыя беларускае музыкі ў Маскоўскай Кансэрваторыі і г. д. Там на Захадзе, творыцца *беларуская навука*—тая духовая страва, якой будзе карміцца ўся наша нарастаючая інтэлігенцыя, дзелючыся ёю ў свой чарод з народнымі масамі. І гэтая беларуская навука абыймае з кожным годам усё новыя галіны знаньня: за 1923 год у Менску пачалі вясьці пабеларуску ўнівэрсытэцкія выклады ўсіх прадметаў беларусазнаўства (мова, літэратура, родная гісторыя, геаграфія і краязнаўства, этнаграфія і др.), некаторых юрыдычных і грамадзянскіх навук, а так-жа па прыродзе. А слухала гэтых выкладаў некалькі сот беларускіх студэнтаў. А ў меру гэтага разьвіцьця беларускае навукі прыбываюць патрэбныя беларускія ўчэбнікі, якія ўжо зусім забясьпечылі нашу пачатковую і сярэднюю школу, і твораца беларускія навуковыя працы і дасьледы, якія будуць служыць учэбнымі дапамогамі для студэнтаў унівэрсытэтаў.

Усё ярчэй і мацней выяўляецца і фармуецца беларуская *грамадзкая думка*, паглыбляецца беларускі сьветапагляд у тых грубых журналах, якія пачалі выходзіць у 1923 годзе: на Усходзе—месячнік „Полымя" і „Адраджэньне"; на Захадзе—зборнікі „Заходняе Беларусі", першая кніжка якое выйшла ў сьвет у самым канцы году; у Коўне — месячнік „Крывіч"; у Празе—„Беларускі студэнт". Асабліва буйна расьцьвіла за леташні год беларуская прэса ў Заходняй Беларусі: пад той час, як на Усходзе выходзіла бадай адна толькі штодзенная „Савецкая Беларусь", на Заходзе мы бачылі дзевяць беларускіх часопісяў (ад 1 да 3 разоў у тыдзень): „Беларускі Звон", „Наша Будучына", „Новае Жыцьцё", „Нашае Жыцьцё", „Наш Сьцяг", „Вольны Сьцяг", „Воля Народу", „Змаганьне"—друкаваныя кірыліцай і „Крыніца"—друкаваная лацінікай (—ня лічучы дзесятай часопісі ў беларускай мове поўурадовага характару „Сялянская Гутарка" ў Горадні, якая выпусьціла 3—4 нумары, поўныя брахні і зьвягі на ўсё беларускае). Праўда, з гэтых дзевяцёх часопісяў пяць былі зачынены ўладай. Апрача таго выйшла 10 аднадзёвак (сканфіскаваны 4), а паіменна: „Беларускі Гоман", „Крык Праўды", „У 5-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі", „Беларуская Доля", „Зарава", „Новае Нашае Жыцьцё", „Падняты Сьцяг", „Сьцяг", „Сьцяг Народу", „Сьцяг Волі".

Урэшце, буйна расьце найярчэйшае выяўленьне нацыянальнае культуры, нацыянальнае душы ў мастацкай форме — наша *літэратура*. Узбагачываецца найбольш дагэтуль бедная ў нас *беларуская повесьць*, характэрны паказчык росту беларускага нацыянальнага жыцьця наагул. Выходзяць „Сокі Цаліны" *) (ч. І: „Бацькава воля") Цішкі Гартнага, вядомага ўжо ў беларускай літэратуры сваей лірычнай творчасьцяй. Дае арыгінальную повесьць Язэп Нарцызаў—„Вялікая Пышка".

*) Гэты твор і некалькі другіх, хоць і надрукаваны у Менску і Бэрліне у канцы 1922 г., ды да нас дайшлі толькі летась, і затым уваходзяць у наш агляд.

